Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 27. Вільня, 22 верасьня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20 Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^{1}/_{2}$ — 65, за $^{1}/_{4}$—35, за $^{1}/_{8}$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Сьпяшайцеся памагчы нешчасьлівым ахвярам паводкі!

Страшная бура, а за ёю навальніца і абрыў хмараў наведала 30 жніўня два ваяводзтвы: Львоўскае і Станіславаўскае.

У працягу некалькіх гадзін, дзякуючы выступленьню вады з берагоў рэкаў, шмат паветаў апынулася пад вадой.

Рэчкі выступілі так хутка з берагоў, што ня было часу і магчымасьці думаць аб ратунку. Вада зьнішчыла сенажаці, засевы і зьнясла сотні хатаў. Прапалі, нядаўна сабраныя з поля, зборы. Сотні хатаў, разам з жывёлай і ўсімі гаспадарскімі прыладамі згінулі ў хвалях рэчак і вазёрах, якімі зьяўляюцца цяпер галіцкія паветы. Зьнішчаны чугункі, дарогі і масты, тэлеграфныя і тэлефонныя лініі, цэлыя вёскі адцяты ад сьвету і стаяць пад вадой.

Многа людзей знайшло сьмерць у ўзбураных хвалях. Згінула адразу ўсё, што з такім трудом трэба было зьбіраць цэлымі гадамі. Страты, якія панясло жыхарства, дасягаюць мільёнаў злотых. Сьледам за гэтым няшчасьцем ідзе другое. Гэта—прыява голаду, якая грозіць усім амаль пацярпеўшым.

Спажыўныя рэчы адразу падскочылі на сто працантаў, а то і няма зусім іх. Голад заглядае няшчасным у вочы. Тыфус, чырвонка шырыць спусташэньне. Сум і адчай пануе над заможнаю яшчэ нядаўна краінаю. Тыя з нас, хто перажываў беды і няшчасьці ваенных падзеяў, тыя патрапяць зразумець і ўявіць сабе тое гора і бяду, якое сустрэла украінскіх сялян. Але мала толькі зразумець і спачуваць. Мы-ж ведаем, што тысячы няшчасных людзей асталіся без страхі над галавою, без неадзоўнае вопраткі на карку і без кавалка хлеба. Дапамогі, атрыманыя ад ураду, не палепшаць радыкальна палажэньня. Абавязкам людзей добрае волі, літасьцівых людзей, ёсьць памагчы братом-сялянам.

Трэба прыйсьці з дапамогай пацярпеўшым, гэта зьяўляецца нашым сьвятым абавязкам. Ніхто не вымагае вялікіх ахвяраў. Што можаш, дай! Ці то будзе грош, вопратка, палатно, ці што іншае. Дае двойчы, хто дае ў час.

Памятайма, што і нас можа наведаць няшчасьце, а тады кожная дапамога будзе нам падпорай.

Дзеля гэтага з'арганізаваўся ў Вільні ваяводзкі камітэт помачы пацярпеўшым. Камітэт хутка з'арганізуе павятовыя камітэты. Вось там можна будзе складаць ахвяры для пацярпеўшых.

Помніце наш грамадзкі абавязак — памагчы пацярпеўшым. Дык няхай не бракуе беларускіх ахвярадаўцаў, што прыдуць з дапамогай пацярпеўшым сялянам Галічыны.

Ахвяры, якія будуць прысланы ў Рэдакцыю „Беларускага Дня“, Рэдакцыя скірue ў Камітэт Помачы пацярпеўшым ад паводкі.

# З жыцьця Наваградчыны.

## Адбудова зьнішчаных бурай гаспадарак.

Наваградзкі ваявода пераказаў на адбудову зьнішчаных бурай гаспадарак для:

| | |
|---|---|
| Наваградзкага пав. | 200.000 зл. |
| Слонімскага „ | 150.000 „ |
| Стаўпецкага „ | 50.000 „ |

Грошы гэтыя маюць быць умешчаны ў Павятовых Касах Ашчаднасьці „да дыспазыцыі павятовых Камісіяў Адбудовы“.

## Справа спэцыяльнага шпітальніцтва.

7 верасьня адбылася ў Ваяводзкім Урадзе конфэрэнцыя прадстаўнікоў павятовых самаўрадаў, пасьвечаная справам залажэньня шпіталяў для вар'ятаў і для хворых на сухоты.

Што датычыцца шпіталю для вар'ятаў, дык атрымана згода ўсіх паветаў Ваяводзтва на будову яго ў Койданах пад Вільняй. Шпіталь гэты будзе абслужваць ваяводзтва Віленскае, Беластоцкае і Наваградзкае. Кошты залажэньня пакрываюць павятовыя Соймікі і выдзеленыя месты гэтых ваяводзтваў прапарцыянальна да ліку жыхароў. Пастаноўлена да камітэту будовы шпіталю паклікаць асобу, дэлегаваную Лідзкім Соймікам. На зьезд у справе арганізацыі шпіталю, склікаецы на 10 верасьня да Вільні, выбраны, як прадстаўнік Наваградзкага Ваяводзтва п. д-р. Даманскі, начальнік Аддзелу Здароўя і п. Багаткоўскі — начальнік Самаўрадавага Аддзелу. У справе санаторыі для сухотнікаў прысутныя выказаліся за ўтварэньне спэцыяльнага Саюзу Соймікаў і ваяводзтваў і апрацоўку проекту і каштарысу будовы санаторыі ў Новаельні.

## Запісы ў Земляробскую Школу ў Кушалеве.

Соймікавая Народная Земляробская Школа імя Станіслава Сташыца ў Кушалеве, Наваградзкага пав., прыймае запісы на новы курс, які пачнецца 17 кастрычніка 1927 году. Зроблены стараньні перарабіць школу на $1^1/_2$ гадовую.

У школе будуць выкладацца гэткія прадметы: земляробства, гадоўля і вэтэрынарыя, малачарства, агародніцтва, садаводзтва, пчалярства, арганізацыя гаспадаркі, коопэрацыя і прынцыпы вясковага будаўніцтва.

З прадметаў агульнанавуковых: польская мова, арытмэтыка, памеры зямлі, географія, гісторыя, гігіена і інш. Апрача тэорытычных заняткаў, вядуцца і практычныя заняткі на абшары школьнае гаспадаркі ў школе фруктовых дрэваў пасецы і ў сталярскіх варстатах. Навука ў школе бясплатная. Памешканьне, сьвятло і апал бясплатныя. Вучні плацяць пры ўступленьні 5 зл. упіснога і аплачваюць кошты пражыцьця і мыцьця порця ў інтэрнаце. Аплата прымаецца ў грошах або ў прадуктах у разьмеры 100 кг. жыта (6 пудоў), штомесяц з гары. Незаможныя вучні могуць старацца стыпэндыяў, вызначаных Міністэрствам Земляробства, Соймікам і валасьцямі.

У школу прымаюцца толькі сыны земляробаў, якія скончылі 16 гадоў і больш, якія ўмеюць чытаць і пісаць папольску і знаёмыя з чатырма арытмэтычнымі дзеяньнямі.

У часе пабыту ў школе вучні карыстаюцца адсрочкай ваеннае службы. Бліжэйшыя інфармацыі даець Урад Земляробскае Школы ў Кушалёве, пав. і пошта Наваградак, паштовая скрынка № 46.

## Земляробская выстаўка ў Наваградку.

Эканамічна-гаспадарскі стан Наваградчыны ад часу вайны з дня на дзень папраўляецца. Аб тым, што так ёсьць, сьведчыць паўстаньне новых грамадзка-гаспадарчых арганізацыяў у апошніх гадох. Сучасны гаспадарскі стан Наваградчыны вымагае вялікай папravы; Наваградчына ў гэ-

# З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА.

Ніжэй друкуем успаміны М. Гурына, які доўгі час працаваў, як журналісты, ў Менску, дзе рэдагаваў газэту „Савецкая Беларусь“. Прыехаўшы ў Польшчу на нелегальную працу, М. Гурын 19 месяцаў знаходзіўся ў складзе падпольных рэвалюцыйных арганізацыяў. Яшчэ 31 сьнежня 1924 г., як нам ведама, М. Гурын парваў з гэтак званай КПЗБ, але ня выйшаў з падпольля, ня бачачы магчымасьці для легальнае беларускае працы пры тагочасных рэакцыйных эндэцкіх урадах.

28 верасьня 1925 г. па даносу камуністаў М. Гурын быў арыштованы і выпушчаны на волю толькі пасьля маёвага перавароту — 8 чэрвеня 1926 году. Друкуем ніжэйпаданыя ўспаміны дзеля таго, што яны маюць пэўнае грамадзкае значэньне, бо праліваюць сьвятло, на агідную працу камуністаў і іх агентуру ў Зах. Беларусі, а па-другое — гэтыя ўспаміны адначасна зьяўляюцца і адказам М. Гурына на ўсе плёткі, якія распускаюцца яго палітычнымі ворагамі. Рэд.

## Замест прадмовы.

Ідэя адраджэньня Польшчы і Беларусі — адна ідэя. Як бяз Польшчы — няма Беларусі, так сама і без Беларусі няма абароненай Польшчы.

Упадак і, яшчэ горш таго, канец незалежнасьці Польшчы азначаець для беларусаў сьмерць беларускага пытаньня, якое сёньня зьяўляецца актуальным, у значнай меры, дзякуючы таму, што істнуе незалежная Польшча. Чым Польшча ў будучыне будзе мацнейшаю палітычна, эканамічна і культурна, тым больш надзеяў будзе мець беларускі народ вызваліцца з векавое няволі. Гэта зразумее кожны, хто глыбей удумаецца ў сутнасьць беларускае справы.

Паўстаньне Польшчы — факт, які трэба ня толькі прызнаць, але і прывітаць, як факт паступовы. Падрываць яе істнаваньне — гэта знача ісьці назад, служыць заборчаму імпэрыялізму, служыць рэакцыі.

Вось чаму ніводзін беларускі барацьбіт ня можа быць ворагам ідэі польскае дзяржаўнасьці, ў вышэйшым, лепшым значэньні гэтага слова.

Беларускі палітык (нажаль разумных беларускіх палітыкаў вельмі мала), можа быць праціўнікам і нават ворагам тых польскіх палітычных партыяў і кірункаў, якія стаяць на дарозе да польска-беларускага братэрства, ён можа быць праціўнікам неразумнае і недалёкае нацыянальнае палітыкі ўрадаў, — усё

тым сэнсе стаіць куды ніжэй, чымся заходнія ваяводзтвы. Бачачы, аднак, высілкі паасобных адзінак, інстытуцыяў, арганізацыяў, як і цэлага грамадзянства, каб направіць гаспадарскую сытуацыю краю, можна прыйсьці да пераканаьня, што ў недалёкай будучыні гаспадарскае жыцьцё тут направіцца і затрэцца розьніца паміж усходнімі і заходнімі ваяводзтвамі краю. Каб гэта зьдзейсьніць земляробскія арганізацыі, што раз, то часьцей пачалі арганізаваць выстаўкі. Адна з такіх выставак вось і адбылася ў Навагрдку.

У арганізацыі выстаўкі ўзялі удзел урадовыя і самаўрадовыя дзейнікі, грамадзка-земляробскія арганізацыі, магістрат м. Навагрдку і цэлы рад адзінак добрае волі. Міністэрства земляробства прызнала субсыдыю на ўладжаньне выстаўкі і на нагароды. Шмат памог магістрат, даўшы работнікаў, коні і сьвятло.

На адкрыцьце выстаўкі прыбылі біскуп Лазінскі і ваявода Бэчковіч. Прывітальнае слова меў ваявода Бэчковіч, у якім ён заклікаў зграмаджаных, каб вынясьлі якнайбольшую карысьць з выстаўкі.

Аддзел ткацтва прадстаўляўся вельмі паважна. Некаторыя экспонаты з аддзелу ткацтва ад'значаліся вялікім харaством і тэхнікай выканаьня. За ткацкія вырабы выдана 25 ганаровых і 16 грашовых нагародаў.

Далей, друкарскія вырабы соймікавае друкарні. Аддзел агародніцтва, паказаў, што прыватная ініцыятыва ў гэтым промысьле можа зрабіць шмат чаго. Экспонаты нічым ня ўступалі найлепшым варшаўскім вырабам. Добра прадстаўляўся земляробскі аддзел. Было тут 270 экспонатаў: прызнана 27 нагародаў. Блага толькі, што ў гэтым аддзеле малы лік выстаўцаў узяў удзел. У параўнаньні з агародніцтвам, земляробскі аддзел выглядаў горш. Трохпалёўка і малое ўсьведамленьне—вось прычыны, што так ёсьць. Аказалася, што зялёныя гнаі ўсюды ўжываюцца. У аддзеле промыслу і рамёслаў было 13 выстаўцаў. Бракавала цэмантовых вырабаў. Прызнана 7 ганаровых і 4 грашавыя нагароды. Ваяводзкі Саюз Пажарнае Варты выставіў камплет інструмэнтаў і ўзброеньня вясковай варты. Прызнаны пахвальны ліст.

У аддзеле прасьветна-земляробскім выступіў: Акружны Саюз Земляробскіх Гурткоў у Навагрдку, Земляробскі Аддзел Павятовага Сойміку і іншыя арганізацыі.

Гадаўляны аддзел вельмі багаты. На першым месцы сэкцыя рагатага быдла. Сэкцыя коняй прадстаўлялася ня так добра. Сьвіньні ангілійскай расы зварочвалі ўвагу прысутных. Так сама куры і авечкі.

Вось так, больш-менш, выглядала выстаўка. Выстаўка прынясла шмат карысьці і ёсьць адным з этапаў паправы нашага гаспадарскага жыцьця.

## У царкоунай справе.

Нядаўна адбыўся ў Луцку Украінскі царкоўны зьезд, каторы вельмі рэзка аднёсься да дасюляшніх кіраўнікоў праваслаўнай рэлігіі ў Польшчы.

Зьезд гэны высунуў цэлы рад постулятаў, дамагаючыся бордзае украінізацыі царквы і пры сваём разьвязаньні выбраў экзэкутыву, на чале якой стаў выдатны украінскі дзеяч доктар Рачынскі. Зьезд прыцягнуў да сябе агульную увагу і выклікаў перепалох сярод вышэйшага праваслаўнага духавенства. Запраўды прадстаўнікі клеру, ня ведаючыя украінскай мовы, ніколі ня могуць спрыяць украінізацыі царквы на Заходняй Украіне і баяцца гэтага працэсу страшэнна. Зылюстраваўшы сітуацыю на Валыні трэба запытацца, ці істнуе гэткі рух у Заходняй Беларусі, ці ёсьць імкненьне да таго, каб беларускай мовай замяніць малазразумелую народу царкоўна-славяншчыну ў імшы і расейшчыну ў казаньнях?

---

гэта магчыма і зусім нармальна, але ніколі беларус ня можа і не павінен ставіць пытаньня так: „Чым горай у Польшчы, тым лепей для нас!“ Замахнуўшыся на сьвятое сьвятых польскае дзяржаўнасьці, на ідэю адраджэньня польскага народу, гэтым самым кожны беларус б'ець „не ў палена, а ў калена“, б'ець па беларускім руху, накіроўваючы яго на дарогу сьмерці, бо, як я сказаў ужо: бяз Польшчы, памойму, немагчыма а ніякая Беларусь.

Больш таго. Гістарычныя варункі так улажыліся, што незалежнасьць іншых народаў: літоўцаў, латышоў, эстонцаў, украінцаў, грузінаў у значнай меры залежыць ад таго, ці будзе Польшча адраджацца. Калі так, калі сіла Польшчы будзе павялічвацца, дык ёсьць надзея, што ў недалёкай можа нават будучыне ідэя незалежнасьці ўсіх паняволеных імпэрыялізмам народаў на Усходзе Эўропы прыменць рэальныя формы. Калі-ж Польшча загіне, загіне надзея на адраджэньне іх і пачнецца рэакцыя, якое гісторыя яшчэ ня бачыла.

Імпэрыялізм Польшчы, аб якім крычаць Саветы і аб якім гамоняць эндэкі і польскія монархістыя, — гэта міт, рэч нерэальная. Польшча ў XX в. ня можа быць імпэрыялістычнаю. Яна можа быць прыкладам, як незалежнасьць трэба будаваць і якіх памылак ня трэба рабіць.

Памылкі Польшчы — гэта адначасна *і нашыя памылкі* і можа ў большай меры яны нашыя.

На памылках Польшчы і яе дасягненьнях трэба вучыцца, каб забясьпечыць будучыну сваю, каб забясьпечыць адраджэньне і братэрства народаў. Памылкі Польшчы ў адносінах да нас *трэба даравацъ*, калі ёсьць хоць крыху добрай волі іх направіць...

Дараваць трэба іх для вышэйшых мэтаў незалежнасьці і адраджэньня ўсіх занепалых народаў...

Да такіх думак прыйшоў я не адразу. Шэсьць гадоў працы ў Менску і Вільні усё больш і больш пераконвалі мяне ў тым, што проціў Польшчы я выступаць не магу, і, як беларус, ня маю на гэта моральнага права.

Я змагаўся сам з сабою. Над'звычайных высілкаў і моральных мукаў каштавала мне тое, што я рабіў у падпольлі.

Я ня быў ачараваны польскай сучаснасьцю. Далёка не! Я бачыў шмат чорнага і дрэннага ў ёй.

На гэта будзе бязумоўна адмоўны адказ.

Чаму ж гэта?

Дзе шукаць прычынаў незацікаўленасьці беларусаў у гэтак паважнай галіне нацыянальнага адраджэньня, як зьбеларушчаньне ў першую чаргу праваслаўнае царквы. Не разглядаючы таго пытаньня, ці зьяўляецца беларускае сялянства рэлігійным, ці нерэлігійным, трэба станоўка прызнаць, што беларускае сялянства арганічна зьвязана з тым грамадзкім інстытутам, які завецца царквою. І вось гэты царкоўны апарат трэба выкарыстаць, яго неабходна захапіць у свае рукі.

Прычынамі пасыўнасьці беларускай опініі ў царкоўнай справе ёсьць малы лік нацыянальна асьвядомленага духавенства і, магчыма, пэўная нястача царкоўных кнігаў у беларускай мове.

Але усё гэта з бегам часу знойдзе позытыўнае вырашэньне.

Дзякуючы ўздыму нацыянальнай самасьвядомасьці, рады барацьбітаў за беларускую справу сярод праваслаўнага духавенства павялічацца.

Недахоп-жа царкоўных кніг можна папоўніць.

Дзеля гэтага патрэбна толькі ініцыятыва і сьвядомасьць палючасьці гэтага пытаньня, каб выцягнуць яго на парадак дня і зрабіць „ударным“ заданьнем сучаснага мамэнту.

*Праваслаўны Беларус.*

## Да нашых корэспондэнтаў і чытачоў.

Рэдакцыя просіць усіх сваіх корэспондэнтаў і чытачоў, якія маюць жаданьне прыняць удзел у нарадзе актыўных прыхільнікаў „Беларускага Дня“ ў Вільні, загадзя паведаміць рэдакцыю пісьмом, падаўшы дакладны свой адрэс. Тэрмін, калі будзе склікана гэта нарада, яшчэ не назначаны. Ён будзе залежаць ад волі провінцыяльных дэлегатаў, большасьць якіх выказваецца за тое, каб нарада была склікана ў пачатку кастрычніка.

# Апошнія навіны.

### Зачыненьне Сэсіі Сойму.

Адчыненая 20.IX.27 сэсія Сойму прыступіла да разгляду справаў, якія непажаданы былі ў сучасны мамэнт ураду. Дзеля гэтага урад дэкрэтам Прэзыдэнта 21.IX.27 сэсію Сойму зачыніў на працяг 30 дзён. Як бачым, конфлікт паміж Соймам і ўрадам завастраецца.

**Японія.** Японію наведаў „тайфун“. Некалькі местаў заліта вадой. Шмат ахвяраў у людзях.

**Бэльгія.** Бэльгія не прайшла ў Раду Лігі Нацыяў. Гэты факт сьведчыць аб незадаваленьні малых дзяржаваў з палітыкі вялікіх дзяржаваў у Лізе Нацыяў. Вялікія дзяржавы хацелі выбраць Бэльгію.

**Францыя.** Французскі ўрад, а за ім грамадзкая опінія, дамагаецца уступленьня Савецкага пасла ў Парыжы Ракоўскага. Ракоўскі падпісаў адозву III інтэрнацыяналу, ў якой заклікаецца да барацьбы з пануючым грамадзкім і дзяржаўным ладам. Ракоўскі мабыць уступіць.

**Расея.** Савецкі ўрад вызначыў Розэнгольца, б. прадстаўніка Саветаў у Англіі, на прадстаўніка ў Парыж. Розэнгольц мае папраўляць абмылкі Ракоўскага.

**Літва.** У зьвязку з апошнім збройным выступленьнем проціў ураду Вальдэмараса на Літве пачаліся рэпрэсіі. Да гэтай пары засуджана на сьмерць 15 асоб і некалькі на вечны астрог. Шмат абвінавачаных засуджана на меншыя кары.

**Італія.** Літоўскі прэм'ер-міністар Вальдэмарас прыехаў у Рым, дзе падпісаў дагавор Літвы з Італіяй.

Але адначасна з гэтым я бачыў, як „кішмя кішыць“ у Польшчы ворагаў яе, як на кожным кроку гэную Польшчу купляюць і прадаюць направа і налева і, я запытваў сябе: Няўжо-ж усё гэта робіцца ў імя вызваленьня Беларусі?!

Не, сто разоў не! — гаварыла мне сумленьне. Беларусь ня можа быць пабудована на няшчасьцях суседняга народу.

— Калі мусіць жыць і адраджацца Беларусь, то мусіць жыць і адраджацца Польшча, — так думаў я, і ў маёй душы ўздымаўся бунт.

Я паліў масты за сабою, і нішто не магло ўстрымаць мяне ад гэтага...

Перш, чымся паставіць крыж на ўсім сваім мінулым, я перажыў глыбокую драму.

Аб гэтых перажываньнях сваіх я і хачу расказаць.

Абмінаю, пакуль што, пытаньне аб гэтак званай БССР, дзе я працаваў з месяца сьнежня 1920 г. аж да выезду майго ў Польшчу — да 28 лютага 1924 г. Да гэтае тэмы я яшчэ вярнуся, калі буду гаварыць аб тым, якія моральныя мукі мне, як беларусу, прышлося перажыць за гэты час свае працы ў Менску. Я займаў розныя савецкія пасады, а прад выездам у Польшчу больш двух гадоў рэдагаваў газэту „Савецкая Беларусь“. Я бачыў шмат фактаў...

Фальш, мана, гвалты моральныя і фізычныя, маскоўскія окупанты ў чырвоных вопратках на кожным кроку плявалі ў душу беларускага народу і трудна, вельмі трудна было прымірыцца беларусу з тым ладам, які ўстанавіўся на Усходзе, у БССР.

Вытрыманасьць характару ратавала мяне ад неабдуманых чынаў, а жарсткасьць душы і абудзіўшыйся беларускі інстынкт ратаваў мяне ад таго, каб не апусьціцца на дно савецкага провінцыяльнага жыцьця. Я шукаў выхаду. Але дзе яго знайсьці?!... На гэтае пытаньне адказу ня было.

Прапазыцыю выехаць у Польшчу на нелегальную работу я прыняў з радасьцю.

— „Беларусь—альбо вольная, альбо ніякая!“— вось думка, якая катлавала ўва мне, кіпела. І з такім настроем я пакінуў БССР, адчуваючы ў глыбіні душы свае, што ў савецкі Менск ужо ніколі не вярнуся!...

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб паляпшэньні сялянскае долі.

Ёсьць расейская прыказка, якая гавора: „Ня вучыўшыся і лапця не сплящеш“.

І гэта—вялікая праўда. Каб добра зрабіць якую-нібудзь самую пустую рэч, трэба ведаць, як яна робіцца. І калі нават гэткай простай рэчы, як лапаць, без навукі добра зрабіць нельга, то што ўжо казаць аб сельскай гаспадарцы!

Земляробу, які мае справу з прыродай, трэба вучыцца і вучыцца шмат, каб пазнаць усе тайніцы яе. Бо толькі тады ён патрапіць узяць з зямелькі свае ўсё тое багацьце, якое хавае яна ў нетрах сваіх ад вока чалавека. І толькі тым, хто пазнаў гэныя тайніцы, яна зьяўляецца шчодраю маткаю і стократна аплачвае працу і высілкі чалавека. Што гэта так, ніхто хіба спрачацца ня будзе.

Вось дзеля гэтага, стварэньне варункаў, у якіх-бы сялянства наша магло здабыць сабе навуку аб сельскай гаспадарцы, зьяўляецца адным з найважнейшых, пасьля пераходу на хутары, этапам для паляпшэньня долі нашага сялянства. На колькі можа павялічыць уменьне гаспадарыць багацьце земляроба—запраўды і сказаць трудна. Пры тэй ступені разьвіцьця навукі аб сельскай гаспадарцы, ў якой гэная навука знаходзіцца цяперака, мы ведаем, што з кожнага кавалачка больш-менш здатнай для земляробства зямлі пры ўменьні і працы, (ведама маючы патрэбныя грошы на зварот), можна дастаць столькі багацьця, колькі дастае яго, скажам, добры агароднік у гародзе. Агароднік такі на якіх-небудзь 1—2 дзесяцінах зямлі дастае ў пяць, шэсьць, а то і ў дзесяць разоў болей багацьця, чым звычайны, сельскі гаспадар на сваіх шнурочках той самай агульнай плошчы.

Адзін мой знаёмы агароднік, узяўшы ў арэнду трошкі больш, як адну дзесяціну, зямлі ў горадзе, ўсялякага дабра з свайго агароду дастаў больш як на пяць з паловай тысячаў злотых. У сядэднім працавала на гэным кавалку зямлі штодня па 5 работнікаў.

Бачыце, колькі багацьця можна дастаць з гэнага невялічкага кавалка зямлі і колькі людзей можа знайсьці на ім працу.

І гэтулькі багацьця, колькі здабыў з свайго кавалка зямлі наш гароднік, можна здабыць, давёўшы паволі зямлю да належнай культуры, з кожнай сельскай гаспадаркі, улажыўшы ў яе гэтулькі ўменьня і гэтулькі працы, і гэтулькі грошаў, колькі наш агароднік улажыў у свой невялічкі гарод. Мушу ад'значыць, што большая часьць грошаў, якія ўлажыў агароднік у свой гарод, пайшла на аплату арэнды за зямлю і аплату працы работнікаў. Сельскія гаспадаркі, якія маюць даволі ўласных работнікаў,— грошай у такі гарод мусілі-б улажыць амаль напалову меней. Гэтак. пры цяперашнім разьвіцьці сельска-гаспадарскай навукі. Але навука не сказала яшчэ свайго апошняга слова, розныя вучоныя аграномы працуюць увесь час над вынаходам усё новых і новых спосабаў дабываньня багацьця з зямлі. Думка чалавека ў гэнай галіне адкрывае ўсё новыя і новыя тайніцы, якія з часам дадуць магчымасьць даставаць з зямлі ў два, ў тры, ў дзесяць, а можа і ў сотні разоў больш дабра, чым дастаюць яго людзі цяперака, бо творчасьць чалавека, ў галіне пазнаваньня тайніцаў прыроды, ня мае дапраўды ніякіх граніц. І каб мільёны земляробаў усюды мелі магчымасьць выкарыстаць усе тыя паляпшэньні, якія дае навука і ўвясьці іх у сваіх сельскіх гаспадарках, дык тады ніякі прырост насельніцтва ня быў-бы страшны.

---

## Дарога Менск — Вільня.

Доўга, з нецярплівасьцю чакаў я дня свайго выезду ў Польшчу. Нарэшце, 28.II.1924 г. я адтрымаў фальшывы польскі пашпарт на імя грамадзяніна м. Лодзі Міхала Васілевіча, які быў прыгатаваны раней, 25 даляраў на дарогу і падводу, якая павінна была вязьці мяне і іншых „пасажыраў“ да граніцы. Наш фурман быў кантрабандысты, багаты менскі жыд. Коні былі добрыя і да пагранічнае вёскі мы даехалі загадзя. Як яна называлася, мяне мала цікавіла. Хутчэй-бы, хутчэй праз граніцу! Чакаць прышлося некалькі гадзін. Уночы з польскага боку прыйшоў другі кантрабандысты, таксама жыд, і сказаў нам, што ўжо пара ісьці. Мы пайшлі за ім, і ён прывёў нас на самую мяжу. Тут, каля пагранічнага стаўпа, стаяў польскі паліцыянт у форме і з вінтоўкаю за плячыма. Ён прыняў нас, пасадзіў у сані, запрэжаныя быстрым канём, і мы, пад ахранаю гэтага паліцыянта, праехалі самы небясьпечны пояс. Потым паліцыянт саскочыў, а мы засталіся з фурманом-жыдам, які гнаў каня ў кірунку м. Ракава.

— Вось і Польшча, — думаў я.

Дарога йшла густым лесам. У грудзёх ад сьвежага ляснога паветра стала неяк лягчэй. Усе маўчалі. Такі быў загад. Але я ня вытрымаў і запытаўся:

— Ці ёсьць у гэтым лесе ваўкі?

Фурман з нейкай ядавітай усьмешкай адказаў:

— А я табе — ня воўк?!

— Так, — надумаў я, — лепшых ваўкоў ня знойдзеш тут.

Да Ракава даехалі быстра і, пачакаўшы ў хаце новых коняй, адразу выехалі на ст. Аляхновічы.

Нас у Ракаве папярэдзілі, мяняючы даляры на польскія маркі, што дарога забясьпечана і што мы можам спакойна ехаць да Вільні. І запраўды на станцыі Аляхновічы мы спакойна, пад ахранаю тых-жа паліцыянтаў купілі білеты і селі ў вагон. Па дарозе з дакумэнтамі ніхто нас ня трывожыў, і мы а гадзіне 12-ай раніцы былі ў Вільні.

— Вось табе і Польшча, — думаў я, успамінаючы першых паліцыянтаў, якія так рупліва служылі, але толькі ня польскаму ўраду, а... маскоўскаму.

(Працяг будзе).

Вільня. *М. Гурын.*

З усяго гэтага відаць, што пытаньне аб навучэньні сялянства рацыянальнай сельскай гаспадаркі, для паляпшэньня сялянскае долі, мае вялізарнае значэньне.

Дзе-ж мае вучыцца сялянства наша сельскай гаспадаркі?

Ведама, перш за ўсё, ў школах. Цяперака ўжо ў школах агульных сяміклясовых дзеці сялянскія праходзяць навуку аб расьлінах і жывёле. Але гэтага мала. Нашая сялянская маці-Беларусь павінна быць пакрыта цэлай сеткай школ сельска-гаспадарчых. Я сказаў-бы болей: школы агульныя, якія істнуюць цяперака, павінны быць зрэфармованы гэтак, каб сталі, па сутнасьці сваёй, сельска-гаспадарчымі, каб кожнае дзіця ўжо ў гэтай школе здабыло самую неабходную веду аб рацыянальнай сельскай гаспадарцы. Справу гэнную, ў поўным яе аб'ёме, павінна выращыць дзяржава.

Але, без дапамогі грамадзян, дзяржава гэнага зрабіць не патрапіць. Усё грамадзянства павінна пранікнуцца гэнай думкай і свае грамадзкія установы, якімі ў першую чаргу зьяўляюцца іх валасныя і павятовыя самаўрады, павінна пхаць у кірунку адчыняньня магчыма большай колькасьці сельска-гаспадарчых школаў ніжэйшых і сярэдніх.

Грамадзянства не павінна шкадаваць на гэта грошаў, не павінна скупіцца, ведаючы, што кожная, выданая на гэткую школу, залатоўка вернецца іх дзеткам з вялікім барышом.

Апроч таго, вялікае значэньне ў навучэньні сялянства рацыянальнай сельскай гаспадаркі маюць сельска-гаспадарскія грамадзкія установы, якімі зьяўляюцца ў нас земляробскія гурткі („kółka rolnicze“) і іншыя.

Сялянства павінна ісьці ў іх, запісвацца сябрамі гэтых установаў, дбаць аб іх узросьце і разьвіцьці. Гэткія установы павінны дапоўніць тое, чаго ў галіне сельска-гаспадарскай навукі сялянству ня можа даць дзяржава.

Дзеля гэтага, кожны селянін павінен быць сябрам гэткай установы, тым болей, што гэтыя установы, апроч таго, што вучаць сваіх сяброў сельскай гаспадаркі, адначасна гуртуюць яго для ўвядзеньня ў дробных сельскіх гаспадарках тых паляпшэньняў, якія кожны паасобны гаспадар сваімі толькі ўласнымі сіламі ўвясьці ня мог-бы.

Дык вось які шлях вядзе наша сялянства да паляпшэньня яго долі. Чым хутчэй зразумеюць гэта шырокія сялянскія масы, чым больш напружаць свае высілкі ў гэным кірунку, тым хутчэй вырвецца яно з гэтай нядолі і гора, ў якім знаходзіцца цяперака. І абавязак усей сьведамай часткі нашага сялянства — гадаваць паміж сваіх братоў кінутыя тут думкі і кіраваць імкненьні яго на гэны шлях. *У.*

## Як дабыць больш сена.

### Адвадненьне сенажацяў.

У нашым краі пануе вельмі дрэнны звычай. Кожны селянін хацеў-бы мець з зямлі як найбольшую карысьць. На поле даём яшчэ хоць гной, але сенажацяў то зусім ня пільнуем, і не стараемся іх палепшыць. Глянуўшы на гаспадарку, якую стасуем на нашых лугох, трэба прызнаць, што гэта чысты грабёж. Бо селянін нічога не дае,— нават праз цэлы год на сенажаць не заглянe. Адно, прыйдзе скосіць, што вырасла. Сенажаці ў нас вельмі занядбаныя, таму яны даюць мала сена. Часта здараецца, што сена не аплачвае працы. Шмат ёсьць такіх балот, дзе селянін ніколі не заглядвае і „якія не даюць ніякай карысьці“.

Каб павялічыць прадукцыю сена і некаторыя мокрыя грунты заняць пад яго гадоўлю, трэба перш за ўсё прыступіць да адвадненьня мокрых лугоў.

Якую карысьць прыносіць адвадненьне вільготных лугоў?

## Голка*).

*Раcказ.*

З пагляду ціхі, спакойны няўзрачны чалавек год 27—28, запраўды Гадаўскі быў вельмі цікаўнай фігурай. Яго вялізарная памяць, якая давала яму магчымасьць амаль слова ў слова паўтарыць цэлыя старонкі адзін толькі раз прачытанае кнігі, яго аграмадная начытанасьць, яго шырокі кругазор ставілі Гадаўскага на цэлае неба вышэй за акружаўшую яго грамаду менш разьвітых таварышоў, для якіх ён зьяўляўся бязумоўным аўторытэтам. Уплыў гэны на акружаючых, яшчэ больш умацоўваўся спэцыяльным спосабам быцьця яго з людзьмі: ён ніколі не сьмяяўся, гаварыў заўсяды ціха, спакойна, неяк так, што супярэчыць словам яго ня было ніякай магчымасьці. Усё тое, што казаў Гадаўскі, здавалася абсолютнай праўдай.

Разам з усім гэтым Гадаўскі быў вялікі жартаўнік. Жартаў яго, іншы раз зусім нявінных, часам вельмі балючых, баяліся ўсе шчарсуны. І дзякі таму, што Гадаўскі і жарт псыхолегічна здавалася былі двума супярэчнасьцямі — жарты гэныя заўсяды яму ўдаваліся, і часта чалавек, які сёньня паў ахвярай Гадаўскага—заўтра ўжо зноў верыў яму і зноў, як муха ў павучыну, ішоў у хітра пастаўленыя новыя сеці. У галіне жартаў Гадаўскі быў запраўдным віртуозам; ён, як ніхто, ўмеў падглядзець слабыя старонкі характару чалавека і пазнаўшы — іграў на іх, як толькі хацеў. Жарты Гадаўскага рэдка калі мелі на мэце якую-небудзь карысьць, імі ён ня зводзіў сваіх асабістых парахункаў, ён ня дбаў аб тым, якія жарт яго пацягне за сабою консэквэнцыі. Жарт быў праявай творчасьці яго інтэлекту, Гадаўскі быў жартаўнік - мастак.

І вось цяперака, сідзючы ў саначках побач з Харашэўскім, Гадаўскі паглядаў на яго і цешыўся. Яму, праўда трошкі жаль было лёгкавернага дзяцюка, ён чытаў у душы яго, як у кніжцы, але нейкая музыка найвышэйшага здаваленьня йграла ў душы Гадаўскага і ня было тэй сілы, якая магла-б цяпер адвясьці яго ад выканэньня гэнага нядобрага, балючага жарту. Гэтак яны даехалі да Адамполю. Ад двара далятала музыка і вясёлы сьмех. Гадаўскі зьлез з санак, а пан Харашэўскі глядзеў панура, моўчкі патрос руку Гадаўскага і, застаўшыся адзін з сваім горам, сядзеў ціха, глытаў сьліну і наслухваў, як колець голка.

Прыехаўшы ў Наваградак, Харашэўскі, ня

*) Гл. працяг у № 26.

1. На асушаную зборку сенажаць можна ехаць коньмі, што палягчае зборку сена.

2. Дзякуючы адвадненьню, цяплыня грунту падносіцца, што памагае лепшаму і ранейшаму разьвіцьцю расьліннасьці.

3. Дае доступ паветра да грунту, а гэтым пазваляе разьвівацца добрым бактэрыям і робіць грунт лепшым.

4. Паглыбляе і паляпшае слой зямлі, скуль карэньні бяруць сабе пажыву.

5. *Павялічвае зборку сена ўдвойчы, а пры рацыянальнай гадоўлі травай утройчы.* Тады можна касіць некалькі разоў.

6. Сена з асушаных лугоў лепшае і пажыўнейшае, а дзеля гэтага удвая даражэйшае.

У нас, дзе амаль яшчэ ўсюды маем шнуравую гаспадарку, каб асушыць сенажаць, трэба закладваць *водныя супалкі*, а ў супалкі павінны уходзіць тыя вёскі, якія маюць балотныя сенажаці. Водныя супалкі *вельмі лёгка могуць дастаць пазычкі на правядзеньне мэліорацыйных работ.*

Трэба брацца за работу і ўзбагачваць сябе, а гэтым самым наш бедны край. Адвадненьне павінна стаяць у нас на першым месцы, таму, што ў нас асабліва шмат ёсьць балотных лугоў, або проста балотаў, якія ня прыносяць ніякай карысьці. У Заходняй Беларусі ёсьць каля 3 мільёнаў балотных сенажацяў.

Такі вялікі капітал ляжыць у зямлі і ня прыносіць ніякай карысьці. Шкоды з гэтага вялікія. Трэба ўзяцца за культурную гаспадарку.

*Селянін Я. П.*

---

## Спосаб проці здуцьця.

Немцы заўважылі, што тады, як у канюшыне ёсьць кроп, дык быдла не здувае. Дык яны й пачалі падсыпаць у канюшыну ці мяшанкі 4 кілёгр. кропу на 1 га і выпадкі здуцьця здараліся вельмі рэдка.

## Абцінаньне бульбяной націны і абрываньне лісьцьця буракоў вельмі абніжаець ураджай.

На вёсцы ёсьць звычай абцінаць бульбяную націну і абрываць бурачнае лісьцьцё на пашу для быдла і сьвіней.

Так рабіць могуць толькі людзі несьвядомыя, чым зьяўляецца лісьцьцё для расьліны. Лісьцьцё ёсьць органам, які дае корм для расьліны. Пры дапамозе зялёнага лісьцьця, расьліна зьбірае вугаль з паветра (вуглявы квас),ператварае яго на крахмал і будуець свае запасныя часьці, якімі і зьяўляюцца пажыўныя карэньні бульбы і буракоў. Калі пазбаўляем расьліну зялёнага лісьцьця, дык гэтым самым аслабляем здольнасьць разросту каранёў і зьмяншаем ураджай.

Шмат вучоных земляробаў, пры помачы дасьведчаньняў, сьцьвярдзіла шкоднасьць абрываньня лісьцьця і абцінаньня націн. Напрыклад, сьцьверджана, што абцінаньне націны ў бульбы па красаваньні абніжыла ўраджай на 38%, а зьмест крахмалу з 19,2% на 13,7%. Пры адным дасьведчаньні аказалася, што абцяцьце націны ў часе красаваньня, абніжыла ўраджай на 62%. Трэба памятаць, што пакуль лісьцьцё зялёнае, дык абцяўшы яго, перарываем далейшы разрост карэньняў і ўбывае зьвялічваньне ліку патрэбных расьліне карэньняў.

Сьцьверджана так сама, што абцінаньне націны блага ўплывае на смак бульбы. Так сама дзеецца і з абрываньнем лісьцьця буракоў. Сьцьверджана, пры дасьведчаньнях над цукровымі буракамі, што абрываньне лісьцьця нават у верасьні зьменшыла ўраджай буракоў на дванцаць і болей процантаў. Лісьцьцё буракоў працуе да позняй восені і таму нельга яго раней абрываць.

А дзеля гэтага абрываньне лісьцьця і абцінаньне націны ў бульбе ёсьць шкадлівай дзейнасьцяй. Пры гэтым прыносіць ня вельмі многа пажытку, які ніколі не пакрые панесеных стратаў.

Націна бульбы — гэта благі корм для жывёлы або сьвіней, даваная ў большым ліку, шкодзіць здароўю.

(„*Tyg. Roln.*“)

---

глядзячы на позную пару, дабіўся такі да дохтара, які заўсяды лячыў шчарсуноў. Той аглядзеў горла і, заместа адказу, злаяў Харашэўскага.

— Дурня клеіш, дабрадзею, і толькі спаць не даеш: ніякай голкі няма,—бурчаў сярдзіта стары дохтар.—І скуль гэта прыйшла ў галаву ягамосьцю гэная голка?

— Гузік да марынаркі прышываў, пане дохтар, голку трымаў ў зубах, глытануў — і вось няшчасьце!—тлумачыў пан Харашэўскі.

Дохтар зноў уважліва аглядзеў горла, пакруціў галавою і, дазнаўшыся са словаў Харашэўскага, што гэную Амэрыку, ў постаці голкі ў горле яго, адкрыў Гадаўскі зусім зазлаваў:

— Дальбог, трэба быць такім дурнем, якога можна знайсьці часам хіба толькі паміж шчарсоўскімі афіцыялістымі, каб верыць Гадаўскаму. Добра яшчэ, што не праканаў ягамосьця ў тым, што асан не шчарсоўскі бугальтар, а жарабец графа, дый гэта было-б бліжэй да праўды. А то голку надумаў і дзеля гэнага падымае з ложка чалавека. Ну, будзьце здаровы, і глядзеце, каб запраўды з Вас Гадаўскі часам жарабца не зрабіў, — гэтак кончыў дохтар сваю кансультацыю.

Лаянка дохтара пераканала пана Харашэўскага. Але, ня верачы яшчэ, ён глытануў сьліну і надзіва не пачуў ніякага болю. Так, дохтар казаў праўду! І тады страшэнны гнеў закіпеў у душы пана Харашэўскага. Ён хвіліну стаяў, як ачунелы, хацеў нешта казаць, і ня мог, і гэтак, не пажагнаўшыся нават з дохтарам, выскачыў, як ашпараны з яго габінэту, сеў у санкі і апамятаўся толькі тады, калі Хомка запытаў яго, куды ехаць? Так, так, куды ехаць? Пан Харашэўскі зьняў шапку, пацёр рукою лоб. Халоднае паветра варочала трошкі яму прытомнасьць.—Гэтак папасьці на вуду, гэтак папасьці!—шаптаў пан Харашэўскі.— Як сьляпога шчанюка, ў прарубку завёў мяне з гэнай голкай,—кіпеў пан Харашэўскі.—Як шчанё, хацеў утапіць, але не ўтапіў яшчэ... О не, не ўтапіў! Я яму пакажу, што не ўтапіў! яшчэ ён будзе ведаць, як жартаваць з Харашэўскага! І агонь помсты загарэўся ў сэрцы пана Харашэўскага. Помсты страшнай, якой сьвет ня бачыў. Віхор думак яго прарваў голас Хомкі, які зноў пытаўся, куды ехаць. Цяпер пан Харашэўскі ведаў куды ехаць. Трэба ехаць там, дзе яго найвялікшы вораг цешыцца цяпер над ганьбай яго.

— У Адамполь валі стралой, не шкадуй Каштанкі,—скрозь сьціснутыя зубы крыкнуў у адказ Хомцы пан Харашэўскі такім голасам, што перапужаны Хомка хляснуў з усей сілы бізуном бед-

## Гадоўля трускавак.

Трускаўкі вельмі карысныя ягады. Іх трэба кожнаму гаспадару садзіць, бо надта лёгка і дарага можна трускаўкі прадаць. Трускаўкаў маем некалькі сартоў. Адным з найлепшых, бо вялікім, вельмі плодным і вытрымалым на мароз ёсьць сорт „Шарплесы“. Пад гадоўлю трускавак трэба выбіраць зямлю гліністую, добра вырабленую і ўгноеную. Садзіць іх можна ў траўні, а нават і ў жніўні. Расадай служаць маладыя выраслі якія вырасьлі на маладых вусах у прошлым леце. Расаду трэба садзіць пад шнур у радкі, 15 — 18 цаляў радок ад радка, на радку каліва ад каліва 20 цаляў, тады яны хутка разрастаюцца. Калі ўжо трускаўкі пасаджаны, іх трэба добра палівадь, зімою трэба прыкрываць лісьцём або саломай. Вясной трэба ачысьціць зімовую прыкрыўку і скапаць зямлю матычкаю.

Як ужо трускаўкі працьвітуць, трэба падаслаць пад ягады моху і добра паліваць вадою. Калі пачнуць расьці ягады, трэба пасыпаць радкі дрыўяным попелам і паліваць вадой, разробленай напалову з гноем. Вусы, калі не патрэбны на расаду, абрэзваць пільна некалькі разоў — за лета. Раз пасаджаныя трускаўкі могуць даваць плод у працягу 3 — 4 гадоў. Што год добра месца мяняць і праз некалькі гадоў ізноў садзіць на старым месцы. Гадоўля аплаціцца, бо купцоў на трускаўкі заўсёды можна знайсьці.

Дык дзеля гэтага, дзеля карысьці якую можна мець з гадоулі трускавак, заклікаю сялян да гадоўлі іх.

*Агароднік.*

## Калі абрэзваць ягадныя кусты?

За ягаднымі кустамі патрэбен дагляд. Трэба вырэзваць старыя атожылкі, якія ўжо перастаюць радзіць. Гэтую работу завуць яшчэ і прасьвятляньнем кустоў.

Атожылкі парэчак і аграсту найлепей родзяць у першым, другім і трэцім годзе. А дзеля гэтага трохгадовыя атожылкі трэба вырэзваць. Калі выкінем гэтыя атожылкі, дык рэшта іх будзе мець даволі сьвятла і лепей радзіціме, даючы лепшыя ягады.

Ня трэба прасьвятляць вясною, бо ў гэтых кустох рана пачынае ісьці сок. Найлепш прасьвятляць зараз-жа пасьля таго, як зьнімем ягады, а калі хто гэтага не зрабіў, дык удачна можна зрабіць і ўвосень.

У малінах усе атожылкі, што давалі ягады, трэба зараз-жа выкінуць.

*(„Сільський Світ“).*

## Гной на пераорку.

Калі зямля ўжо перад зімой добра ачышчана ад пыраю і іншых сьметнякоў так, каб вясной ня трэба было ізноў зямлі ачышчаць ад іх і калі роўны і не замёрзшы загон, можна цэлую зіму вывозіць і раскладваць гной для вясеньняй пераоркі.

Калі загон няроўны або неачышчаны, вывозіць трэба гной у вялікія кучы па некалькі дзесяткоў падводаў у адну і прыкрыць зямлёй, аж да вясеньняга раскіданьня і пераоркі.

## Даіць пры пустых жолабах.

Прынцыпам правільнага ўдою ёсьць удой перад або пасьля кармленьня, а не адначасна.

З аднаго боку доеная карова падчас корму памагае асяданьню на малаку слаёў пылу з хваробатворчымі бактэрыямі, пры спакойным даеньні менш гэтых бактэрыяў дастаецца.

Выдзяленьне зьместу малочных гручолаў жывейшае пры спакойным удоі. Удой — гэта дзейнасьць, якая дае карове нават палавую прыемнасьць. Таму ў добра пастаўленых малочных гаспадарках падчас удою заўсёды пануе цішыня. Карова тады спакойная, задаволеная, дае болей і здаровага малака.

---

ную Каштанку, якая разам рухнула ў скок з месца і панясла іх у белыя прасторы.

Утуліўшыся ў саначкі, пан Харашэўскі перажываў свой боль і крывавыя думкі путаліся ў яго галаве. Яму рысаваліся страшныя вобразы. Ён бачыў Гадаўскага трупам ля ног сваіх з прабітай галавой. Над трупам гэным бачыў сябе, страшнага, як бога помсты, з крывавым кінджалам, альбо рэвальвэрам у руцэ. Але практычны розум пана Харашэўскага рысаваў далейшыя вобразы. Вось саля суда, натоўп народу. Ён сядзіць на крэсьле падсудных. Цягнецца доўгая судовая працэдура.

— Прызнаеце сябе вінаватым—пытае судзьдзя? Як-жа ня прызнаць? — Вінаваты, вінаваты! — Суд выносіць прыгавар: вечная катарга. Мурашкі пабеглі па целе пана Харашэўскага.—Не, гэтак ня можна! Мая доля больш варта, чым жыцьцё гэнага паганца.

— Высьмеяў, аскандаліў, на векі прыліпнула да цябе гэная голка,—шаптаў некі голас пану Харашэўскаму, — ты мусіш ад'імсьціць за ганьбу — ганьбай, за сорам — сорамам. І пан Харашэўскі перабіраў у галаве розныя формы помсты, але ўжо такія, каб не папасьці на катаргу.

Халодны вецер і дробны сьняжок, які пачаў парашыць, халадзілі паволі ў ім агонь.

Пан Харашэўскі рад быў-бы ўжо ня мсціць, але ратаваць толькі свой гонар. Добра было-б, каб гэта можна было зрабіць неяк спакойна, без скандалу, бяз крыві. Але як?

Паклікаць на паядынак? Ізноў пану Харашэўскаму прыпомнілася варажба:

„Пагражае табе сьмерць“. А бубновы валет, гэта-ж Гадаўскі, — маланкай праляцела думка ў галаве пана Харашэўскага, і ён задумаўся.

Можа застрэліць, з Гадаўскім жартаў няма. Каб гэта на шаблі. Але ніколі яе пан Харашэўскі ня меў у руках, Гадаўскі таксама, здаецца. Застаецца адно, на пісталеты.

І гэтак усю дарогу мучыўся пан Харашэўскі над думкай, як ратаваць свой гонар так, каб не пагражала яму сьмерць. Але без паядынку, хаця самага благога ня выходзіла нічога.

І калі Каштанка затрымалася зноў пад Адампольскім ганкам, пан Харашэўскі меў ужо гатовы плян: вызваць Гадаўскага на паядынак і забіць яго.

(*Працяг будзе*).

**Шастун.**

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Вывад дзеткі.

Добрыя, моцныя вульлі, якія маюць запас мёду, пачынаюць выводзіць дзетку раньняю вясною. Увесь клопат пчаляра ў гэты час, г. зн. вясною, і ёсьць у тым, каб даць пчолкам магчымасьць, чым хутчэй пачаць гэтую высядку дзеткі. Гэту магчымасьць пчаляр толькі можа даць тады, калі тых пчолак, у якіх няма мёду, будзе карміць; бо толькі тыя пчолкі, ў якіх ёсьць корм, стараюцца чым хутчэй і чым раней размнажацца. У гэтым-жа і ёсьць увесь сакрэт пчалярства, каб мець здаровыя моцныя сем'і тады, як пачнецца багаты ўзятак на полі, бо толькі моцныя сем'і здалеюць скарыстаць з багатага мёдабраньня і нанасіць якнайболей мёду, лішку каторага пчаляр павінен забраць для сябе. Вось-жа дзеля гэтай мэты мы і павінны рупіцца, каб якнаймацнейшыя сем'і ў нас ужо былі ў канцы мая, гэта знача, што пчаляр усімі спосабамі павінен падтрымаць вывад дзеткі самаю раньняю вясною. Дзетка гэтая павінна заўсёды быць пад руплівым вокам дасьведчанага пчаляра. Пазнаць-жа, ці матка ўжо пачала чарвіць, ці не — зусім лёгка, трэба толькі дакладна абглядзець чарачкі вузы і прыглядзецца, ці ў гэтых чарачках ёсьць чарвячкі. Калі яны ёсьць і калі пакладзены добраю маткаю, (ня трутнёўкаю), то яны будуць мець правідловае палажэньне, г. зн, што чарачкі, незанятыя мёдам, усе адна пры аднэй будуць занятыя чарвячкамі. Чарвячкі гэтыя займаюць спачатку невялічкі кружок, у цэнтры пчалінага гнязда. Круг гэты расшыраецца, і ў суседніх рамках гэтак сама пачынаюць зьяўляцца невялічкія кружочкі. У пачатку вясны кружочкі з чарвою ўсё болей і болей расшыраюцца, гледзячы па сіле гнязда, да тэй пары, пакуль не запоўняць усіх пустых чарачак. Па сканчэньні раеньня, колькасьць пчолак зьмяншаецца аж да пачатку халадоў, з надходам якіх вывад зусім спыняецца.

На які дзень выходзяць з чарвячкоў пчолкі, я ўжо казаў у іншым месцы. Цяпер толькі хачу ўспамянуць аб пярзе, як аб галоўным корме для маладых пчолак, якая, як я ўжо казаў, зьмешаная з мёдам і з вадою, творыць пчоляе малачко. Вось-жа пярга — гэта ёсьць пылок з красак. Пчолкі зьбіраюць яе, скочваюць у грудкі і прыносяць на задніх ножках у вулей, дзе яна ідзе на ежу маладым пчолкам. Невялікая часьціна пяргі ідзе на ежу і старым пчолкам, а часьціна ідзе таксама і на рабленьне накрывак для чарачак, у якіх знаходзяцца чарвячкі і для рабленьня матачнікаў.

Пярга, якая не расходзіцца, складаецца ў чарачкі, прыкрываецца мёдам і запячатваецца воскам для будучага ўжытку. Дасьведчаныя практычныя пчаляры, каб павялічыць збор пяргі, раньняю вясною, часта пасыпаюць па пчальніку жытняе мукі, з якое пчолкі вельмі ахвотна выбіраюць пылок і носяць у вульлі. Гэты пылок і ёсьць ня што іншае, як тая самая пярга, толькі лепшага гатунку, значыцца пажыўнейшая. Дзеля гэтага пасыпаць раньняю вясною жытнюю муку па пчальніку ёсьць вельмі карысна і гэты спосаб кожны пчаляр павінен практыкаваць у сябе. Трэба толькі ведаць, што пасыпаецца мука тады, як няма яшчэ красак на полі, бо калі ўжо паявяцца краскі, то пчолкі ўжо болей не бяруць пяргі з мукі, а стараюцца яе зьбіраць з красак, значыцца натуральным спосабам, дзе яны пажывяцца трошкі і мёдам.

Апрача пяргі, прыносяць яшчэ пчолкі ў вулей і клей, які яны зьбіраюць з смалістых дрэваў, г. зн. з іх пучкоў, як з тапалёў, вербаў і іншых. Гэты клей пчолкі таксама прыносяць на задніх ножках. Ужываецца гэты клей для замазваньня розных шчылінак і лішніх дзірак у вульлі.

*Пчаляр.*

# Корэспондэнцыі.

## З Ваўкавыскага павету.

Нашае сялянства ня вельмі цікавіцца палітыкай. Сяляне перш за ўсё зацікаўлены гаспадарчым і культурным станам, бо наагул палітыка малую або й ніякае карысьці не дае сялянам.

Сялянства пераканалася з дзейнасьці Грамады, што самыя палітычныя моманты працы на беларускай ніве, а тым больш, калі палітычная праца ператвараецца ў безадказную дэмагогію, ня прыносяць ніякай карысьці. Наадварот, палітычная дэмагогія вельмі шкодная.

Сяляне Ваўкавыскага павету, чаго нам трэба дабівацца і якімі дарогамі трэба ісьці? Нам трэба паправіць свой гаспадарчы стан. Дзеля гэтага мы маем на мэце ў хуткім часе прыступіць да шырокай арганізацыі Коопэратыўна-Спажывецкіх Таварыстваў. Далей, прыступім да шырокай арганізацыі вясковых бібліятэк, сельска-гаспадархкіх гурткоў. Такой дарогай мы хочам ісьці, каб паправіць сваё гаротнае жыцьцё.

Нашчасьце якраз паявілася наша мілая парадніца, якой мы ўжо доўга чакалі, гэта газэта „Беларускі Дзень". Гэта газэта не пакіне нас на зьдзек нашых ворагаў і здраднікаў, а павядзе па тым праўдзівым шляху, па якім дойдзем да лепшае будучыні. Дык заклікаем усіх братоў-беларусаў кінуць, пакуль што, палітыку, а ўсе сілы свае аддаць на працу над роднай асьветай, якой мусім перш за ўсё, дамагацца і на паправу свайго гаспадарскага жыцьця.

Сялянства Ваўкавыскага павету яшчэ ня зусім нацыянальна сьведама, хаця ў апошнія гады ў гэтай галіне зроблена многа. Сяляне нашыя падзелены на два варожыя лагеры — гэта на праваслаўных і каталікоў. Адны цягнуць туды, другія сюды, а згоды няма. Ня гледзячы на такі шкодны стан, на малую нацыянальную сьведамасьць, у апошніх часох беларускі нацыянальны рух стаў пакрысе пранікаць, дзякуючы працы беларускіх культурных установаў, як Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і Т-ва „Прасьвета". Гэтыя культурныя арганізацыі пачалі закладаць гурткі і вядуць цяжкую працу сярод нашага цёмнага, забітага горам, сялянства. Маю поўную надзею, што ў хуткім часе Гурткі ўспомненых культурных арганізацыяў раскінуцца шырока на абшары ваўкавыскага павету.

Даецца заўважыць, што раз, то большае зацікаўленьне сярод сялянства культурнымі справамі. Беларуская вёска што раз, то больш, усьведамляецца і адраджаецца.

*Селянін.*

## Выбары ў Ёдзкую валасную раду.

Перш за ўсё хачу адцеміць аб жыхарстве Ёдзкае валасьці, ці інакш кажучы аб складзе насельніцтва, ня толькі Ёдзкае валасьці, але і цэлага Браслаўскага павету. Дык вось, насельніцтва Ёдзкае валасьці складаецца ў пераважнай большасьці з беларусаў і нязначнай колькасьці паноў, шляхты, асаднікаў і жыдоў.

Паны і шляхта яшчэ такую-сякую ролю адыгрываюць, але што датычыцца асаднікаў, дык зусім ня маюць ніякай павагі сярод мясцовага насельніцтва. Вось усё гэта паказалася на практыцы пры выбарах у валасную раду. Рэзультаты выбараў паказалі тое, што наша беларуская вёска за апошнія гады пашла далёка ўперад у нацыянальным асьведамленьні. Як у цэлым Браслаўскім павеце, так і ў Ёдзкай валасьці, бадай што выключна, ў валасных радах сяляне беларусы, хаця прайшлі і паасобныя адзінкі з паноў. Папярэднія валасныя рады ў нашым павеце пераважна складаліся з самых паноў і шляхты, цяпер-жа гэтага няма. У нашай Ёдзкай валасьці застаўся той самы войт—паляк Рудоміна, хаця ён паходжаньня панскага, але неблагі чалавек, нават у валасьці гутарыць з сялянамі пабеларуску. Апрача войта Рудоміны, ўвайшло нейкіх пара асобаў нявыразных, нацыянальна несьвядомых, хоць з крыві і косьці яны беларусы. Караннresponse палякі ў валасную раду не ўвайшлі зусім. Рэшта ўсё беларусы розных палітычных перакананьняў. Дык вось апошнія выбары паказалі, што беларуская вёска ўжо прачыхаецца ад сну. Беларуская нацыянальная сьведамасьць, што раз, то большыя і большыя абхоплівае абшары Беларусі. *Скакунчык.*

### в. Шаўляны, *Браслаўскага пав.*

У нашай вёсцы ёсьць беларуская прыватная школа, заложаная, дзякуючы стараньням Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Вось з першых дзён свайго існаваньня школа пачала інтэнсыўна працаваць у школьным кірунку і апрача таго вонках, а іменна тым, што кіраўніца школы п. М. Булыга часта ладзіць пры дапамозе моладзі ў школе беларускія спэктаклі. Беларускае слова на сцэне бязумоўна адыгрывае вялікую ролю ў асьведамленьні сялянскіх масаў. Чуючы роднае слова на сцэне, кожны прысутны пачынае ацэньваць родную мову і пры тым свае старыя звычаі. Песьні дыдактычнага характару таксама паказваюць прысутным на спэктаклях, як чалавек павінен паступаць, чаму так, а ня інакш.

Пры гэтым песьні патрыятычнага зьместу проста загадваюць любіць родную мову, сваю Бацькаўшчыну і ўсё сваё роднае. Спэнічнае слова часта ганіць і сьмяецца з тых, якія выракаюцца свайго роднага, чураюцца беларусчыны, а сябе лічаць за штосьці лепшае. Сьмешныя і бедныя гэткія людзі. Дык вось, частыя беларускія спэктаклі вельмі асьведамілі нашых сялян і прывучылі любіць усё сваё роднае. Дзякуючы гэтаму, мы цяпер зусім інакш пачалі заглядацца на беларускую справу, чым перш. Праўда, аб вечарынах, якія ладзіла наша школа, я яшчэ ня пісаў, але вось аб гэтай, якая адбылася 21 жніўня я пішу, бо яна зьяўляецца больш урачыстай і лепш арганізованай.

У гэны дзень якраз у нашай парахвіі адбыўся фэст-кірмаш, дык людзей было шмат, з якіх даволі многа завітала на нашу вечарынку. Пры гэтым была прачытана ў школьным будыкку лекцыя на тэму „Мінуўшчына і сучаснасьць Беларусі“, Лекцыю прачытаў госьць з Вільні гр. П. К. Пасьля лекцыі адбыўся спэктакль, былі пастаўлены: „Чорт і баба“ і „Пакой у наймы“.

Трэба ад'значыць, што дзеці-школьнікі над'звычайна добра згулялі свае ролі. На рэдкасьць добра гулялі і ня дзіва, бо ў роднай мове, каб у чужой, дык ня было-б так ёмка. Публікі на спэктаклі было вельмі шмат і ўсе вынесьлі найлепшае ўражаньне. Пажадана, каб часьцей ладзіліся такія вечарыны.

*Шаўлянец.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### У Беларускім Пасольскім Клюбе.

Пасол Сабалеўскі, які да апошняга часу лічыў сябе грамадаўскім паслом, зрокся „Грамады“ і ўступіў у склад Беларускага Пасольскага Клюбу. Тое самае зрабілі і яго калегі па „N. P. Ch.“ паслы Шакун і Шапель. Факт гэты маець значэньне толькі тое, што сьведчыць аб поўным банкруцтве грамадаўскае тактыкі.

### Барацьба беларускіх матурыстых за навуку.

Матурыстыя беларускіх гімназіяў не задавольніліся адмовай Унівэрсытэту прыняць іх у лік слухачоў і падалі заявы ў вышэйшыя ўрадовыя установы, дабіваючыся задавальненьня свае просьбы.

### Дабрачыннае Т-ва дапамогі студэнтам Беларусам.

Група беларусаў у хуткім часе падаець на зацьверджаньне статут дабрачыннага Т-ва дапамогі студэнтам і вучням беларусам.

# З Украінскага жыцьця.

### Раскол Украінскага Пасольскага Клюбу.

Прэзыдыум Украінскага Пасольскага Клюбу ў складзе паслоў Хруцкага, Казубскага і Назарука выдаў адозву да украінскага грамадзянства, ў якой ганьбіць паслоў „сельробаўцаў“ за тое, што яны праваюкоць адзіны Украінскі нацыянальны фронт і выклікаюць, па загаду загранічных дзейнікаў, раскол сярод украінскага грамадзянства. У склад „сельробаўскай“ групы паслоў уваходзяць пяць паслоў (Чучмай, Макіўка, Козіцкі, Пастарнак і Підгірскі). Па сутнасьці сваёй „Сельроб“ на Валыні — гэта тое самае, што наша бышая „Грамада“. Характарная рэч, што раскол гэты робіцца якраз перад канцом працы Сойму. Як відаць, Маскве цікава за ўсякую цану ўвясьці смуту ў рады украінскага грамадзянства і здэмаралізаваць яго дашчэнту, бо зразумелая-ж рэч, калі украінцы будуць ісьці з некалькімі сьпіскамі ў Сойм, яны пасварацца паміж сабою і аслабяць нацыянальныя сілы Украінцаў.

## АДМІНІСТРАЦЫЯ „БЕЛАРУСК. ДНЯ“

паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпіснай платы, абяцаючы прыслаць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прыслаць у найбліжэйшым часе, бо тым, хто да 1 кастрычніка грошы ня прышле, часопісь *„Беларускі Дзень“* высылацца ня будзе.

# Аб усім патроху.

### Колькі каштуе Ліга Народаў.

Бюджэт Лігі Народаў на 1928 год аблічаны ў 24.879.622 залатыя франкі. У параўнаньні з бюджэтам 1921 г. (2-гі год паўстаньня Лігі да жыцьця), калі гэты бюджэт быў 21.250.000 фр., ён павялічыўся на $3^1/_2$ мільёны франкаў. А ў параўнаньні з 1923 г. бюджэт гэты нават паменшыўся на 800.000.

З агульнае сумы на сэкрэтарыят і іншыя органы Лігі прыпадае каля $13^1/_2$ мільёнаў франкаў, на Міжнародны Трыбунал — 2,1 міл. і на ўтрыманьне будынкаў Лігі ў Жэнэве (Швайцарыя) — 1,37 міл. На расходы па скліканьню Зьезду Лігі ў будучым годзе асыгнована 392.000 франкаў, 75.000 асыгнована на паседжаньні Рады Лігі і 1,8 міл. на розныя камісіі і конфэрэнцыі, залічваючы сюды праезныя і сутачныя экспэртам і служачым. На „непрадбачаныя расходы палітычнага характару“ асыгнуецца 500.000 франкаў, на пэнсію служачым 7,7 міл. франкаў і 418.000 на расходы на па публікацыі.

Пераверуўшы на польскія злотыя, бюджэт Лігі дае 50 мільёнаў злотых.

Трэба зазначыць, што ў гэтую суму не ўваходзяць тыя вялізарныя кошты, якія выдаюць сябры Лігі (эўропэйскія дзяржавы) на ўтрыманьне сваіх дэлегатаў ды на пасылку і ўтрыманьне сваіх міністраў з іх сьвітаю.

Як бачым, дык Ліга Народаў траціць толькі на самую сваю „арганізацыю“ аж 50 мільёнаў польскіх злотых у год.

### Узбраеньне розных дзяржаваў.

Ня гледзячы на тое, што ўсе гавораць аб міры, узбраеньне дзяржаваў ідзе ўверх. Гэта сьведчыць, што ідзе нейкая падрыхтоўка да новае вайны.

Ангельская армія, па колькасьці невялікая, але і тэрыторыя, якую прыходзіцца ёй ахоўваць (калі ня лічыць каленій, дзе ёсьць таксама самастойныя арміі), меншая, чым у Польшчы і Італіі. На адзін квадратны кілёмэтр Англіі прыпадае адзін салдат. Кошт аднаго салдата, куды ўваходзіць усё ўзбраеньне і ўтрыманьне марскіх, сухапутных і паветраных сіл, вышэй, чым ува ўсіх краінах сьвету (1920 даляраў у год). Калі нават узяць пад увагу, што ангельская армія наёмная, то і тады гэта лічба выдаткаў на аднаго салдата акажацца вельмі вялікай, бо пэнсія салдата невялікая (200—250 дал. у год).

У Францыі на аднаго салдата прыходзіцца 1,2 кілёмэтра ахоўваемай тэрыторыі. Выдаткі-ж на ўзбраеньне і ўтрыманьне арміі, марскога і паветранага флёту на 1 салдата ў сярэднім складзе 518 дал. у год. У гэту лічбу не ўваходзяць выдаткі па ўтрыманьню окупацыйных войск і ваенныя выдаткі па міністэрству каленій. Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што ў Францыі істнуе вайсковая павіннасьць і пэнсія салдата нікчэмная.

Злучаныя Штаты — таксама не адстаюць. Праўда, на тэрыторыі, якую прыходзіцца абараняць амэрыканскаму салдату (18,3 кв. кіл.) Злучаныя Штаты стаяць на першым месцы пасьля СССР, але затое вайсковыя выдаткі на аднаго салдата складаюць 1343 дал. у год. Гэта лічба таксама досыць значная, не зважаючы на тое, што армія Злучаных Штатаў наёмная.

Нямеччына ў шэрагу іншых краін заслугоўвае быць зазначанай асобна. Па Вэрсальскаму ўгавору Нямеччына ня можа мець арміі вышэй 100 тыс. чал. і фармальна яна выконвае гэта абавязаньне. Але калі прыняць пад увагу над'звычайна высокую лічбу выдаткаў на 1 салдата (1560 дал. у год), ясна, якая гэта армія. Гэта высокакваліфікаваныя інструктары (унтэр-афіцэры), якія ў выпадку вайны ў 3 месяцы могуць давесьці армію да 3 мільёнаў чал. І гэта зусім магчыма, маючы на ўвазе высокую тэхніку Нямеччыны і магутнасьць яе індустрыі.

Вайсковыя выдаткі Італіі на аднаго салдата складаюць 450 дал. у год., уступаючы ў гэтых адносінах Францыі, Нямеччыне і Злучаным Штатам. Але тэрыторыя, якую даводзіцца ахоўваць салдату італьянскае арміі, дасягае 0,8 кв. кілёмэтраў. Такім парадкам, фашысцкая Італія стаіць на першым месцы.

У Польшчы на аднаго салдата прыпадае 1,4 кв. кіл., а сярэдні выдатак на таго-ж салдата дасягае 308 дал. у год.

Выдаткі на чырвонаармейца ў Расеі складаюць толькі 232 даляры у год. З гэтага відаць, што расейская чырвоная армія самая бедная.

### Справа эмэрытальнага забясьпечаньня самаўрадовых працаўнікоў.

Як паведамляе „II. Kur. Codz.“, на 21 гэт. месяца назначана паседжаньне спэцыяльнай Дзяржаўнай Самаўрадовай Камісіі. На парадку дня стаіць проект распараджэньня Прэзыдэнта Рэспублікі аб спэцыяльных самаўрадовых саюзах. 22.IX адбудзецца паседжаньне адміністрацыйна-праўнага камітэту, які мае разглядзець проект распараджэньня Прэзыдэнта Рэспублікі аб эмэрытальным забясьпечаньні самаўрадовых працаўнікоў, а таксама і аб лячэбных закладах.

### Звальненьне ад падаткаў.

Апошняе выданае распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі пастанаўляе, што ў выпадку штучнага залясеньня грунтаў, якія ня былі дагэтуль ляснымі грунтамі, а разам з тым, калі такія грунты не падходзяць да іншае вырабы, такія грунты будуць вольныя ад дзяржаўных падаткаў у працягу 30 гадоў, лічачы ад наступнага году па залясеньні.

## Юрыдычныя парады.

*Пытаньне.* Ёсьць нас трох сыноў у бацькі. Бацька наш стары, хоча запісаць усю гаспадарку: зямлю, будынкі і жывёлу толькі аднаму, малодшаму сыну, а двом ня даць нічога. Тэстамэнт хоча зрабіць у натарыюса. Зямля наша надзелена люстрацыяй. Ці можа бацька запісаць яе толькі аднаму сыну?

*Адказ.* Можа. Старайцеся паладзіць з бацькай.

**Франуку Янкоўскаму.** Падайце Надлясьніцтва ў суд, быць можа будынкі прысудзяць вам. Аднак, справа даволі трудная.

---

### ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Рафалу Янкоўскаму.** *Пытаньне I:* Блізу ўжо год, як завяліся ў маіх будынках невялічкія жучкі, папольску іх завуць „mącznik młynarczyk", ды такое мноства, што проста не даюць жыць. Як пазбавіцца гэтага паскудзтва?

*Пытаньне II.* Некалькі ўжо год, як у маім будынку завяліся чарвякі, каторыя псуюць бярвёны сьцяны, а такжа сталы, крэслы і іншыя хатнія прыборы. Псуюць гэтыя чарвякі пераважна ялова[е] дзерава. Як пазбавіцца гэтых чарвякоў?

*Адказ.* Радыкальнага спосабу на шкоднікаў, якія псуюць дрэва будынкаў, няма. Вільгаць, якая пануе пераважна ў кожным сялянскім будынку, пазваляе распаўсюджвацца розным чарвякомшкоднікам. Каб іх ня было, трэба хату і іншыя будынкі добра вытынкаваць вапнай, а ня глінай. Далей купеце звычайнай тарпатыны (скіпідару) і пазалівайце ўсе шчэлкі, у якіх чарвякі вядуцца. Толькі такім спосабам можна вясьці барацьбу з усялякімі шкоднікамі. А найлепш адразу ставячы будынак, так яго ставіць, каб там ня было ніякіх шчэлак, моху, пакуля, а каб сьцены былі шчыльна гладкімі. Так паставіўшы будынак і вытынкаваўшы вапнай, можна быць спакойным, што ніякія чарвякі-шкоднікі не завядуцца.

---

**Ахвяры на карысьць пацярпеўшых ад паводкі.**

Супрацоўнікі „Беларускага Дня" . . 50 зл.

**Цэны у Вільні на сельска-гаспадарскія прадукты на 20 верасьня 1927 году.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . . . . . . . . . | 38.00—40.00 | зл. | за | 100 | кілёгр. |
| Авёс . . . . . . . . . . . | 39.00—40.00 | „ | „ | „ | „ |
| Ячмень бравàровы . . . . . | 39.00—46.00 | „ | „ | „ | „ |
| Ячмень на муку . . . . . . | 36.00—38.00 | „ | „ | „ | „ |
| Мука амэрык. . . . . . . . | 1.00— 1.10 | „ | „ | „ | „ |
| Мука жытняя 50 % . . . . . | 65— 67 | „ | „ | 1 | „ |
| Мука бульбяная . . . . . . | 70— 80 | „ | „ | „ | „ |
| Мука грачаная . . . . . . | 60— 70 | „ | „ | „ | „ |
| Мука ячменная . . . . . . | 60— 65 | „ | „ | „ | „ |
| Мяса валовае . . . . . . . | 2.40— 2.70 | „ | „ | „ | „ |
| Цяляціна . . . . . . . . . | 2.70— 3.30 | „ | „ | „ | „ |
| Бараніна . . . . . . . . . | 2.30— 2.70 | „ | „ | „ | „ |
| Сьвініна . . . . . . . . . | 3.20— 3.50 | „ | „ | „ | „ |
| Сланіна 1 гат. . . . . . . | 4.20— 4.50 | „ | „ | „ | „ |
| Сланіна II „ . . . . . . . | 3.80— 4.00 | „ | „ | „ | „ |
| Малако . . . . . . . . . . | 30— 35 | „ | „ | „ | літр. |
| Сьмятана . . . . . . . . . | 1.80— 2.00 | „ | „ | „ | „ |
| Сыр тварожны . . . . . . . | 1.50— 1.70 | „ | „ | „ | „ |
| Масла несалёнае . . . . . . | 5.00— 5.50 | „ | „ | „ | кілёгр. |
| Масла салёнае . . . . . . . | 4.20— 5.00 | „ | „ | „ | „ |
| Яйкі . . . . . . . . . . . | 1.80— 2.00 | „ | „ | 10 | штук. |
| Куры . . . . . . . . . . . | 3.00— 6.00 | „ | „ | 1 | „ |

**Варшаўская біржа — 2-XI-27.**

Даляры . . . . . . . . . . . . . . . . 8,91 8,89





---

Рэдактар-выдавец **Ф. Умястоўскі.** „Друкарня Юзэфа Завадзкего в Вільне", вул. Сьв. Анны 3.